«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№12(36) декабрь 2012

## АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ

**Новым старшынём Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ абраны Леанід Аўтухоў.**

15 сьнежня ў Віцебску праходзіла абласная справаздачна-выбарная канфэрэнцыя партыі БНФ. Удзельнікі канфэрэнцыі заслухалі справаздачу старшыні абласной арганізацыі партыі БНФ **Кастуся Смолікава**, які распавёў пра дзейнасьць арганізацыі цягам апошніх двух гадоў, праведзеныя кампаніі, стан рэгіянальных арганізацыяў партыі, удзел у выбарчых кампаніях і кампаніі па назіранню "За справядлівыя выбары 2012". У дыскусіі, што разгарэлася пасьля выступу спадара Смолікава, абмяркоўвалася тэма ўдзелу ў выбарах, закраналіся праблемы зьмяншэньня колькасьці сяброў партыі і павышэння ўплыву яе на грамадзтва.

Абласная канфэрэнцыя абрала новае партыйнае кіраўніцтва. У склад рады абласной арганізацыі партыі ўвайшло 9 сяброў з розных рэгіёнаў Віцебскай вобласьці. Новым абласным кіраўніком БНФ быў абраны **Леанід Аўтухоў**.

На абласной канфэрэнцыі прысутнічаў старшыня партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**, які распавёў пра стан у якім знаходзіцца партыйная арганізацыя, новы менскі офіс партыі, падрыхтоўку да праграм наступнага году.



## ЛЕКЦЫЮ ПРА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА ПРАСЛУХАЛІ І ВІЦЕБСКІЯ МІЛІЦЫЯНТЫ

**Дэмакратычныя актывісты Віцебску правялі публічную лекцыю «Што такое правы чалавека, і як яны выконваюцца ў Беларусі». Яе прачытаў каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў.**

Публічную лекцыю мясцовыя актывісты арганізоўвалі ўпершыню. Гэты фармат абралі таму, што на правядзеньне такога кшталту мерапрыемства ня трэба браць дазвол ва ўладаў, апавёў спадар Жаляпаў:

«Для таго каб правесьці лекцыю, не патрэбны ніякі дазвол. Дзе мы яе будзем праводзіць – гэта ўжо наша воля. Мы вырашылі, што правядзем тут, у парку. Гэтае месца афіцыйна вызначана для правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Калі я прыйшоў за 20 хвілін да пачатку, да мяне падышоў падпалкоўнік міліцыі і спытаўся, ці падаваў я заяўку. Я сказаў, што не падаваў. Ён мяне папярэдзіў, што калі раптам недазволенае мерапрыемства будзе праводзіцца, то ён будзе вымушаны прадпрымаць пэўныя захады».

Міліцыянты не заміналі актывістам, але ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў іх было ці не ўдвая болей, чым слухачоў. Былі і міліцыянты ў форме, і людзі ў цывільным, і нават спартовага выгляду дзяўчаты, якія заявілі: «Мы – з «Арыфлэйму!» Але «гандляркі касмэтыкай» стаялі ў адным шэрагу зь міліцыянтамі, і нехта з прысутных паведаміў, што сёлета ў віцебскі АМОН і ў міліцыю вялікі недабор, таму ахвотна бяруць і дзяўчат.

Пасьля лекцыі, якая пад пільным назіраньнем была нядоўгай, усіх слухачоў «праводзілі» з парку «пад вартай» — усьлед за кожнай групай актывістаў ішлі 2-3 чалавекі, кажа **Хрыстафор Жаляпаў:**

Нас траіх праводзілі два чалавекі ў цывільным — да самага чыгуначнага вакзалу.

«Я правёў падрыхтаваную лекцыю, у нас там абмен думкамі атрымаўся… а вакол нас стаялі чалавек 15 розных прадстаўнікоў праваахоўных органаў, яны таксама паслухалі… І мы пайшлі кожны сваёй сьцежкай дахаты. Нас траіх праводзілі два чалавекі ў цывільным – да самага чыгуначнага вакзалу».

Абышлося без затрыманьняў. На думку спадара Жаляпава, такія мерапрыемствы трэба ладзіць часьцей, калі ўжо ні на пікеты, ні на мітынгі дазволу атрымаць немагчыма.

Пікет 10 сьнежня хацелі правесьці віцебскія праваабаронцы, але Чыгуначная раённая адміністрацыя забараніла. Такія забароны раённыя ўлады практыкуюць ужо два гады, і яшчэ ніводнага разу дазволу атрымаць не ўдалося.

У Наваполацку таксама быў забаронены пікет да чарговых угодкаў прыняцьця Дэкляраці правоў чалавека. Тамтэйшыя ўлады спасылаліся на рашэньне гарвыканкаму, які год таму выкрасьліў пляцоўку каля гарадзкога Дома культуры з шэрагу месцаў, вызначаных для масавых акцый. Але гэта шырока абвешчана не было, і наваполацкія актывісты проста ня ведалі пра перамены. Таму яны падалі паўторную заяўку – каб правесьці пікет ужо на пляцоўцы каля парку культуры і адпачынку. Гэтае месца засталося адзіным на ўвесь горад, дзе ўлады дазваляюць зьбірацца на масавыя імпрэзы.

# ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ ДА ДНЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску **Натальля Ляпёшкіна** забараніла праваабаронцам зладзіць пікет 10 сьнежня. Такое рашэньне было прынятае нягледзячы на тое, што імпрэза мусіла адбыцца ў месцы, адмыслова вызначаным уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў - у парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Прычына забароны пікету - заяўнікі акцыі не заключылі дамоваў на яе абслугоўваньне са службай ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй.

Міжнародны дзень правоў чалавека 10 сьнежня адзначаецца ва ўсім сьвеце. У гэты дзень у 1948 годзе Генэральнай асамблеяй ААН была прынятая Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека. На думку віцебскага праваабаронцы **Леаніда Сьвеціка**, улады, забараніўшы пікет, прысьвечаны гэтай гістарычнай даце, паказалі сваё сапраўднае стаўленьне да правоў чалавека. "Улады ў чарговы раз прадэманстравалі, што яны не зацікаўленыя ў любой грамадзка-палітычнай актыўнасьці", - заявіў ён.

http://vitebskspring.org/be/news/1189

# ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА - ПРАВААБАРОНЦА ГОДУ

Традыцыйна 10 сьнежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека, вызначылі найлепшых журналістаў, адвакатаў і праваабаронцаў. Праваабаронцам году назвалі **Любоў Кавалёву.** Маці Ўладзіслава Кавалёва ўшанавалі ўзнагародаю за «абарону сына, абвінавачанага ў зьдзяйсьненьні тэракту ў менскім мэтро і пасьля расстралянага, і за барацьбу супраць сьмяротнага пакараньня».

«На гэта пакладзенае жыцьцё майго сына. Цягам усяго часу мяне падтрымлівалі людзі, і, каб ня гэта, мне было б значна цяжэй. Дзякуючы гэтаму падтрыманьню я яшчэ жыву, я яшчэ штосьці магу рабіць. Ці ёсьць у нас яшчэ правы? Па-мойму, у нас ужо даўно іх забралі. У любых справах ідуць толькі адпіскі», – зазначае Любоў Кавалёва. Жанчына будзе надалей змагацца за адмену сьмяротнага пакараньня ў Беларусі і за рэабілітацыю імя свайго сына.

Адвакатамі году назвалі **Алівіну Дрыго** і **Аліну Шостак**, якія ў судох баранілі актывістаў «Маладога фронту». Журналіст году – **Андрэй Пачобут.**

http://vitebskspring.org/be/news/1193

# У ВІЦЕБСКУ ЗЬБІЛІ АКТЫВІСТА БНФ

**Зь віцебскім сябрам партыі БНФ Аляксеем Гудзіліным невядомыя правялі «прафіляктычную гутарку». Ад яго запатрабавалі спыніць сваю дзейнасьць і больш не «піярыць» БНФ. Каб малады чалавек лепш зразумеў сказанае, яго зьбілі.**

Інцыдэнт здарыўся 14 сьнежня. Аляксей Гудзілін вяртаўся з практыкі, ён вучыцца на зваршчыка. Па дарозе вырашыў завітаць да свайго сябра, каб разам пайсьці ў спартовую залю. Аднак, выйшаўшы з трамвая, ён змог прайсьці толькі некалькі мэтраў, пасьля чаго быў спынены людзьмі ў цывільным.



«На вуліцы Сьмятаніна да мяне падышлі двое чалавек. На выгляд ім было гадоў па 40-45. Сказалі, што я павінен зь імі прайсьці. Я спытаў: "Зь якой прычыны? Я ж не судзімы, у мяне штрафаў нават няма. Завошта мне кудысьці праходзіць?" Хвіліны праз дзьве пад'ехала машына. Мяне туды пагрузілі. Гвалтоўна-прымусова…» – распавядае партыйны актывіст.

Аляксея заштурхнулі на задняе сядзеньне аўтамабіля, самі селі па абодва бакі ад яго: «Яны мне сказалі: Навошта ты займаесься такой дзейнасьцю, піярыш партыю БНФ?».

Потым адзін з мужчын нанёс Аляксею кулаком удар у твар: «Зьбілі мяне. У выніку зламаны нос, закрыты пералом. Мне сказалі, што я не павінен больш хадзіць у БНФ, наогул піярыць яго і займацца абы-чым. "Абы-чым" – гэта адстойваць спартовую залю? Гэта проста абсурд!»

Спартовая заля, якую згадвае Алексей Гудзілін, знаходзіцца ў раёне ДСК. Гэта адзіная трэнажорная заля на ўвесь раён, у ёй рэгулярна займаюцца спортам некалькі дзясяткаў чалавек, як дарослых, гэтак і дзяцей. На пачатку кастрычніка камунальнікі зачынілі былі залю нібыта з прычыны яе нерэнтабэльнасьці і скарацілі пасаду трэнэра (майстар спорту **Аляксандар Таболін** прапрацаваў тут 17 гадоў, зь ім вырашылі не працягваць кантракт).

Памяшканьне спартзалі ЖРЭТ зьбіраўся пераабсталяваць у краму ці склад. Тады Аляксей, які сам займаецца там спортам цягам дзесяці гадоў, пачаў змаганьне. Ён здолеў прыцягнуць да сытуацыі ўвагу грамадзкасьці. Пра гісторыю з закрыцьцём залі напісалі «Народныя навіны Віцебска» і «Камсамольская праўда», быў паказаны сюжэт на тэлевізійным канале СТВ. У выніку ЖРЭТ мусіў адступіцца – спартовую залю зноў адчынілі, з трэнэрам працягнулі кантракт, праўда пакуль толькі на паўгода.

«Засмуціла тое, што калі я змагаўся за гэтую залю, ніводзін са 120 чалавек не пагадзіўся са мною гэта рабіць, бо я адразу сказаў, што я ад партыі БНФ. Мне сказалі: "Гэта ж апазыцыйная партыя, нас жа пасадзяць у турму". Трэнэр таксама вельмі баяўся. Ва ўсіх СМІ, якія паведамлялі пра гэта, выразалі тыя моманты, дзе я згадваў партыю БНФ», – распавёў Аляксей.

Хлопец кажа, што ён узьняў рэйтынг БНФ у вачох сваіх сяброў: «Цяпер партыю БНФ ведаюць на трэніроўках, ведаюць, што вось такі чалавек ходзіць сюды, трэніруецца, і ён адстаяў спартзалю сваімі сіламі». Відаць, менавіта рост папулярнасьці апазыцыйнае партыі сярод наведвальнікаў трэнажорнай залі, да якога спрычыніўся Аляксей, і стаў прычынай яго зьбіцьця.

Асобы, што збівалі маладзёна, імаверна, зьяўляюцца супрацоўнікамі праваахоўных ворганаў. Бо, як кажа Аляксей, яны паказалі яму нейкія пасьведчаньні, але зроблена гэта было так хутка, што ён не пасьпеў разгледзець, што ў тых пасьведчаньнях было напісана.

http://vitebskspring.org/be/news/1211

# ДА 70-ГОДДЗЯ АСВЕЙСКАЙ ТРАГЕДЫІ

Такіх жудасных падзеяў, якія адбыліся на верхнядзвінскай зямлі падчас Другой сусветнай вайны, гісторыя ведае няшмат. Сацыял-дэмакраты Віцебшчыны актыўна далучацца да справы ўшаванання ахвяраў вайны і Халакосту.- гаворыць **Валянціна Болбат**, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСДП,навуковы супрацоўнік музея імя І.Чэрскага.

Падчас Вялікай Айчыннай на Асвейшчыне быў зверскі закатаваны, спалены, выгнаны ў рабства кожны другі жыхар. Па сутнасці, быў знішчаны цэлы раён – Асвейскі. Фашысты не шкадавалі ні нямоглых старых, ні дзяцей, з асаблівай жорсткасцю знішчалася яўрэйскае насельніцтва: не за іх справы і веру, не за гістарычна-культурную адметнасць, а проста за тое, што яўрэі. У самой Асвеі ў брацкай магіле 650 ахвяраў генацыду, у магіле на могілках у Верхнядзвінску 769 жыхароў, у вёсцы Луначарскае больш за дзвухсот...і гэты жудасны спіс можна працягваць.

"Асвейскай трагедыяй" назваў гэта небывалае па жорсткасці знішчэнне мірных жыхароў вядомы пісьменнік і аўтар аднайменнай кнігі Сяргей Панізнік.

На Верхнедвіншчыне распачаты шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай журботнай даце, якія распачаліся ўстаноўкай першага помнікам ахвярам генацыду ў Асвеі, пры садзейнічанні Саюза яўрэйскіх грамадскіх арганізацый і абшчын, які ўзначальвае вядомы скульптар **Леанід Левін.** На адкрыццё помніка прыехалі ўнукі тых, хто у далёкім 1942 годзе на асвейскай зямлі знайшоў свой апошні зямны прытулак.

# У КЛУБЕ "ВЕТЭРАН" НЕ СУМУЮЦЬ

Чым заняць вольны час, як арганізаваць свой адпачынак у такім маленькім гарадку, як Верхнядзвінск? Адказаў можа быць некалькі. Песіміст скажа: "А дзе можна бавіць вольны час у Дрысе (так некалі называўся сёняшні Верхнядзвінск)? Рэстаран зачынены на рамонт, два бары не задавальняюць патрэбаў жадаючых.."

Аптыміст адкажа: "А чаму толькі ў бары можна вабіць вольны час? Ды й ці захочацца свой вольны час займаць толькі такім адпачынкам? Трэба шукаць занятак для душы..."

**Таццяна Барысава і Антон Бубала**, сябры нашай суполкі, знайшлі такую адтуліну для душы, займаючыся ў народным клубе "Ветэран" раённага Дома культуры. Каб пазнаёміцца з гэтым творчым аб'яднаннем, трэба абавязкова наведаць іх мерапрыемствы, пагутарыць з яго ўдзельнікамі...А вось пра апошняе мерапрыемства гэтага творчага калектыву хочацца расказаць асобна і патрымаць удзельнікаў і пераможцаў ад сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.

Да конкурсу "Міс і Містэр Восень" больш за дзесятак яго ўдзельнікаў рыхтаваліся шчыра і натхнёна, бо трэба было зрабіць самапрэзентацыю, выявіць свае творчыя здольнасці ў спевах, танцах, мастацкім чытанні і нават праявіць рэжысёрскі талент...Дзве гадзіны цудоўнага настрою падаравалі яны гледачам, якія адбілі сабе далоні, заахвочваючы самадзейных артыстаў.

У намінацыі "Міс Загадка" пераможцай прызнана Таццяна Барысава, і "Містэр Талент"- Антон Бубала. Ведай нашых!

# ПРЫСУДЗІЛІ ШТРАФЫ ПА 3 БАЗАВЫЯ ВЕЛІЧЫНІ

Судзьдзя Першамайскага райсуду **Валянціна Кісьмярошкіна** ўзяла пад увагу паказаньні сьведкаў-міліцыянтаў, якія заявілі, што двое віцебскіх прыхільнікаў БХД іх нецэнзурна абражалі. Суд над двума актывістамі праходзіў у габінэце судзьдзі. **Аляксея Кішчука і Станіслава Лаўрэнава** прывезьлі на працэс зь ізалятару часовага ўтрыманьня, дзе яны правялі мінулую ноч.



Аляксей Кішчук: «Нас затрымалі каля 11 раніцы — машыну, дзе мы ехалі, спынілі супрацоўнікі ДАІ. У мяне не было пашпарту, таму загадалі ехаць у Першамайскі РАУС. На судзе супрацоўнікі ДАІ і спэцназаўцы расказвалі, нібыта мы лаяліся на іх матам. Хаця нічога такога не было і блізка. Пра Станіслава спачатку казалі, што ён адмаўляўся падпарадкоўвацца патрабаваньням міліцыянтаў, але такі пратакол не складалі. Судзілі нас толькі за хуліганства — за „нецэнзурную лаянку", прысудзілі штрафы — кожнаму па 3 базавыя велічыні».

Аляксей Кішчук патлумачыў, што яшчэ 19 сьнежня іх вазілі ў суд. Але нават ня выпусьцілі зь міліцэйскай машыны а павезьлі адразу ў ізалятар часовага ўтрыманьня. Гэтая акалічнасьць дае падставы меркаваць, што затрыманьне Лаўрэнава і Кішчука было прэвэнтыўным, лічыць **Тацьцяна Севярынец:**

«Іх адсочвалі з самага ранку, Аляксей і Станіслаў распавядалі, што за імі езьдзілі міліцэйскія машыны. Станіслава, які быў кіроўцам, ДАІ яшчэ аштрафавала на 650 тысяч за пратэрмінаваны тэхпашпарт, але гэта ўжо іншая справа… Я думаю, хлопцаў адмыслова трымалі пад вартай амаль суткі, пакуль было 19 сьнежня — каб ня зладзілі нейкай акцыі да ўгодкаў Плошчы. Дарэчы, супрацоўнікі Першамайскага РАУС канфіскавалі з машыны мядзьведзіка з плякатам „Будучы прэзыдэнт" ды так і не аддалі, нават пасьля суду».

http://vitebskspring.org/be/news/1215

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов.** Вёрстка - **Сергей Солидный.** Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# "КУЛЬТУРНЫ ГРАДУС ВІЦЕБСКА: ПЛЮС ЦІ МІНУС?"

**Серыя ток-шоў пад агульнай назвай "Культура паляпшае жыццё!", якія ладзіць ва ўсіх рэгіёнах краіны кампанія "Будзьма беларусамі!", працягнулася 4 снежня ў Віцебску.** Культурны градус горада вымяралі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і журналісты, гісторыкі і прамоўтары, музыкі і чынавенства. Пры канцы сустрэчы Віцебскае МГА "Гісторыка" прадставіла прэзентацыю шляхецкіх баляў.

У вітальным звароце **Ніна Шыдлоўская**, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!", патлумачыла і абгрунтавала слоган кампаніі "Культура паляпшае жыццё!", падзялілася планамі на далейшую дзейнасць кампаніі ў рэгіёнах, у межах якой чакаюцца публічныя прэзентацыі і лагічны працяг "Кірмашу праектаў", які ўжо распачаўся ў Магілёве.




Па традыцыі рэгіянальных абмеркаванняў частка прысутных сфармавала чацвёрку інтэлектуальных "форвардаў", якія і выйшлі "на лёд" пад кіраўніцтвам "капітана" – вядоўцы вечара **Уладзіміра Булаўскага**. У гэты вечар у "асноўны склад" увайшлі: **Віктар Глушын**, спецыяліст адзела культуры гарвыканкама, акцёр моладзевага тэатра "Колесо", гісторык, **Раман Воранаў**, рэдактар партала Vitebsk4.me, арганізатар культпадзей у Віцебску (фестываль графіці "Гравітацыя", серыя адкрытых лекцый, школа маладых журналістаў Public Republic), **Сяргей Бабенка**, народны рамеснік, адзін са стваральнікаў клуба гістарычнай рэканструкцыі "Варгенторн", **Андрэй Духоўнікаў**, мастак, дырэктар музея "Цэнтр сучаснага мастацтва".

Ад пачатку сустрэча пайшла ў канструктыўнай і сяброўскай атмасферы, без папрокаў і прэтэнзій, як гэта, на жаль, часам здараецца ў нашы дні. Добрым прыкладам маладога і адкрытага для супрацы і прапановаў чыноўніка стаў Віктар Глушын. Ён расказаў пра мерапрыемствы, што праходзяць у горадзе, і недахоп увагі з боку медыяў да "чэмпіёнаў па культуры".

З боку старэйшага пакалення ў гэты вечар найбольш актыўна выказваўся Андрэй Духоўнікаў. Ён падзяліўся сваім досведам у культурнай працы на карысць Беларусі, а згадваючы праблемныя моманты ў жыцці горада (вядомае здарэнне з фестывалем "Гравітацыя"), нават папракнуў самога сябе за тое, што быў у гэты момант не ў горадзе і не змог актыўна паспрыяць справе.

Сяргей Бабенка нямала папракаў жыхароў за цягу да "петрасяншчыны", а ў культурным жыцці заклікаў імкнуцца да сапраўднай культуры. Публіцыст Раман Воранаў заклікаў трымацца ва ўсім "віцебскай традыцыі" і расказваў пра праявы сучаснага мастацтва горада.

Асабліва актыўна і сэнсоўна выказваліся прадстаўнікі грамадства, яны апісалі прыклады з культурніцкага жыцця і супрацы ўлады і грамадства. Прадстаўнікі кінаклуба разважалі пра цяжкасці і магчымасці супольнай працы з дзяржавай, якая часта добра пачынаецца, але потым незаўважна страчвае дынаміку. У адказ на гэта **Віталь Броўка** на падставе пазітыўных прыкладаў распавёў пра сваю стратэгію працы ў культурніцкім сектары.

Але які дыскурс без прыкладаў - як пазітыўных, так і негатыўных? Як след, падлівалі масла ў агонь дыскусіі жывыя, прапушчаныя "праз сябе" прыклады ад прысутных. Узгадвалі і фестываль **Віталя Раузы**, і парад нявестаў, прадстаўлены **Вольгай Бабковай**. **Гарык Аганджанян** з болем расказаў пра лёс свайго "Бітлз-клуба" і паабяцаў адрадзіць яго, нягледзячы на часовыя цяжкасці. Прыкладам павагі да беларускасці, творчасці і здаровага сэнсу сталі прамовы мастачкі **Святланы Баранкоўскай**, якая мае рускі пашпарт, але шыкоўна валодае беларускай мовай, і мастака **Аляксандра Вышкі** - пра структуру супрацы "дзяржава – мастакі", якая мусіць пачынацца з таго, чаго прагнуць самі людзі. Бо толькі "маючы добры фундамент, варта ўзводзіць сцены і клеіць на іх шпалеры", то бок рэалізоўваць культурніцкія падзеі на базе добрых стасункаў і надзейных дамоваў.

А каб праяўленая самастойна ініцыятыва не гублялася, знаходзіла магчымых партнёраў і была добрым фундаментам для культурніцкай дзейнасці ў горадзе, кампанія "Будзьма беларусамі!" абвясціла старт "Кірмашу праектаў".



Кожная грамадская ініцыятыва ці асобны чалавек у Віцебску можа падрыхтаваць прэзентацыю свайго праекта/ідэі, які жадае правесці ў сваім горадзе. Найлепшыя праекты будуць прапанаваны ўладам для ўключэння ў план культурнай дзейнасці. Кірмаш пройдзе ў 2 туры. У фінале будуць прэзентаваныя найлепшыя праекты. Фармат — слайд- ці відэапрэзентацыя ў межах 5 хвілін. Свае прэзентацыі можна перадаць рэгіянальнаму каардынатару кампаніі "Будзьма беларусамі!" па Віцебскай вобласці Уладзіміру Булаўскаму (bulavskiv@gmail.com, +375 29 8940517).

http://news.vitebsk.cc/2012/12/07/kulturnyi-gradus-vitsebska-plyus-tsi-minus/